РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# КУЛЬТУРА

КОШТ 1 РУБ.

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №38, 5 КАСТРЫЧНІКА 1992 ГОДА.

СЁННЯ:



Рэжысёр Мадэст АБРАМАЎ:



«Я не люблю пустыя месцы ў зале»

■ стар. 7

МАГНАТ МІКАЛАЙ РАДЗІВІЛ ЧОРНЫ

■ стар. 4 — 5

НА КАГО «СТУЧИТ» ДЗЯЦЕЛ?

■ стар. 2

## Ісціны, выкладзеныя амаль дзве тысячы год таму Хрыстом, застаюцца надзённымі і сёння: «...не хлебам адным будзе жыць чалавек...»

Вядомы графік, народны мастак рэспублікі Арлен Кашкурэвіч па прапанове Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта наладзіў персанальную выставу, прысвечаную 1000-годдзю праваслаўя на Беларусі. Сёння ў Мінскай епархіі дэманструюцца 25 графічных лістоў майстра. Сярод іх — серыя ілюстрацый да "Евангелля ад Лукі", "Апакаліпсіса", а таксама графічныя партрэты беларускіх святых Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Афанасія Брэсцкага і інш.

Арлен Кашкурэвіч працягвае распрацоўваць біблейскую тэму па заказу выдавецтва "Мастацкая літаратура", якое мяркуе выдаць «Новы запавет» на беларускай мове ў перакладзе Анатоля Клышкі.

Сёння мы друкуем графічны ліст мастака «Спакушэнне Хрыста ў пустыні».



# ПРЫГАЖОСЦЬ ВЫРАТУЕ... БІЗНЕС

*Ці зможа ўзвышаная культура існаваць ва ўмовах рынку?*

*Вядома, што прыбытак яна прыносіць не хутка, і таму зацікавіць прадпрымальнікаў ёю ў цяперашні час, калі вялікія падаткі, спад вытворчасці, недасканалыя законы, няпроста. Значыць, заставацца культуры беднай Папялушкай...*

*А што думае на гэты конт, якія бачыць шляхі развіцця культуры намеснік міністра культуры Уладзімір РЫЛАТКА?*

**—Бытуе думка, пакуль даволі распаўсюджаная, што культура і рынак — несумяшчальныя. Ці сапраўды так?**

—Многія думаюць, што культура і рынак — паняцці антаганістычныя, але гэта далёка не так. Калі рыначная эканоміка здольная павялічыць матэрыяльнае багацце грамадства, то гэта добра для культуры. Таму што галоўны антаганіст культуры —матэрыяльнае жабрацтва. Іншая справа, што шматлікія формы духоўнага жыцця: клуб, тэатр, філармонія, якія ўсе папярэднія гады былі зарыентаваныя на пакрыццё сваіх выдаткаў за кошт дзяржаўнага бюджэту, са страхам глядзяць на рыначную перспектыву. Яны прадчуваюць: дзяржаўны «Балівар» хутка не здолее несці вагу не па моцы.

Ці магчыма сабе ўявіць, што мастацтва можа развівацца па-за духоўным вопытам, які выяўляецца ў набытым білеце, кнізе, карціне і гэтак далей? Колькі можна недасведчанасцю публікі апраўдваць бяздзейнасць або складваць на дзяржаўную паліцу плён творчай працы? У амерыканскіх сімфанічных аркестрах працуюць дзесяткі менеджэраў, якія не забываюцца запытацца ва ўладальніка абанемента, чаму той не прыйшоў на канцэрт і як ён сябе пачувае. Ступень жа мастацкай дасведчанасці амерыканцаў у сваёй масе не вышэйшая за нашу.

Рынак прымушае па сутнасці займацца рэкламай, прапагандай, стварэннем грамадскага іміджа мастака. Ён, як паветра, неабходны развіццю натуральных адносінаў мастака, менеджэра і публікі.

**—Значыць, мастаку наканавана «змагацца» з рынкам у адзіноце?**

—Не, зусім не. Ні мастак, ні творчы калектыў не можа быць пакінуты на волю лёсу. Дзяржава, вызначаючы свае культурныя прыярытэты, проста абавязана падтрымліваць еўрапейскі ўзровень матэрыяльнага забеспячэння творчага жыцця. Імідж нацыі ў рэальных (не дыпламатычных) міжнародных адносінах залежыць у першую чаргу ад узроўню дасягненняў культуры, якая ўключана ў міжнароднае культурнае жыццё, ад узроўню адукаванасці свайго насельніцтва.

Літаратура, спектаклі для дзяцей, кружэлкі, канцэрты высокага мастацкага зместу, білеты ў тэатры могуць быць таннейшыя за кошт дзяржаўнай датацыі. Але іх усё роўна павінны купіць. Бо за кожны білет у тэатр оперы і балета дзяржава даплочвае больш за 200 рублёў. У Галандыі тыя, хто згубіў глядацкую аўдыторыю, пазбаўляюцца дзяржаўнага фінансавання.

Цяперашні перыяд, што характарызуецца спадам вытворчасці, імклівай інфляцыяй, жорсткай падатковай палітыкай, паніжэннем плацёжаздольнасці людзей, — не лепшы час для выпрабавання рынкам духоўнага жыцця. Мы назіраем працэс адчужэння мастацтва і публікі. Але менавіта сёння ўкараненне рыначных прынцыпаў: прагназаванне попыту, якасць прапановы, яе рэалізацыя і непасрэдна звязаная з ёю ўзнагарода — шлях да нармальнага функцыянавання тых або іншых формаў культурнага жыцця ў грамадстве.

**—А як быць, калі мастак не зразумелы сёння і будзе зразумелы ў наступны час?**

—Часта можна чуць, што мастацкі твор, які створаны сёння, накіраваны да будучых пакаленняў і ў цяперашнім часе ацэнены быць не можа. Сапраўды, творчасць геніяў раскрывае свае глыбіні рознымі гранямі для новых і новых пакаленняў людзей, і гэты працэс можа быць бясконцым. Сапраўды, прыхаджане Лейпцыгскага сабора 500 гадоў таму, можа, і не маглі ацаніць мастацкія глыбіні музыкі Баха, калі б яна ў той час існавала, але яны чулі голас Бога, і ён быў ім неабходны.

**—Ці выгадна сёння камерсантам укладваць грошы ў культуру?**

—У сваю асабістую, у культуру сваёй нацыі безумоўна, выгадна. Таму што гэта вызначае іх уласны прэстыж у цывілізаваным грамадстве. Камерцыйна выгаднае любое пасрэдніцтва ў культурным жыцці. Складаней са спонсарствам, мецэнацтвам — магутнымі крыніцамі матэрыяльнай падтрымкі, якія распаўсюджаны ў заходнім і ўсходнім свеце. Тут справа не толькі ў падатковых ільготах для мецэнатаў, у неразвітасці рыначных адносінаў у нашай эканоміцы. Такія паняцці, як грамадскі прэстыж, рэклама, сучасны дызайн і іншыя, не сталі фактарамі эканамічнага поспеху. Багатыя людзі лічаць за лепшае сёння, наадварот, заставацца ў цені. Усяму свой час.

**—Рынак нясе з сабой камерцыялізацыю культурнага жыцця. Ці ёсць праціяддзе ад яе негатыўных праяваў?**

—Наш час небяспечны для духоўнага здароўя, асабліва гэта тычыцца падрастаючага пакалення. Ценевая культура была заўсёды. Сёння кіч, эроціка хутка зрастаюцца з агульна прынятымі формамі культурнага жыцця. Кожны пераход, кіёск, кінатэатр ператвараюцца ў эратычны цэнтр. Тут праяўляецца адсутнасць дысцыпліны.

**—І ўсё ж такі, ці даходна займацца культурай?**

—Сапраўды, сур'ёзны бізнес заўсёды грунтуецца на перспектыве, пралічваючы ўсе «за» і «супраць», і прыбытку, які потым павялічваецца і заканчваецца рэальнымі грашыма. Укладваць сродкі ў прапаганду культуры і бізнесу, які ў сваю чаргу ўкладвае ў культуру, выгадна.

**—Ці выгадна сёння ствараць кінафільмы, ажыццяўляць іх пракат, праводзіць выставы?**

—Пракат фільмаў, асабліва тады, калі мае шырокую базу, заўсёды быў і ёсць камерцыйна выгадным. У тых, хто стварае стужкі, займаецца кінапракатам, праблем асаблівых не ўзнікае. Яны, як правіла, вяртаюць назад усе грошы, у тым ліку і валюту, якія пайшлі на кінавытворчасць.

Не стратная справа і арганізацыя выставаў. Што гэта менавіта так, сведчыць такі факт: літаральна штодзень праходзіць у Еўропе выстава-продаж твораў каго-небудзь з беларускіх мастакоў. Наша школа жывапісу, графікі, скульптуры лічыцца дастаткова моцнай. Увогуле, самабытнае беларускае мастацтва, якое мае еўрапейскі характар, набывае аўтарытэт у свеце.

**—Прадпрымальнікі скардзяцца на вялікія падаткі. Не перашкаджаюць яны актыўнай дзейнасці бізнесменаў, накіраванай на падтрыманне культуры?**

—Так, падаткі немалыя. Аднак ёсць і льготы. Са спонсарскіх укладанняў да аднаго працэнта падаткі не ўтрымліваюцца. З устанаваў, што часткова знаходзяцца на дзяржбюджэце і якія арганізоўваюць відовішчныя мерапрыемствы, меншая бярэцца плата.Тым не менш, трэба адзначыць: падатковая палітыка патрабуе дапрацоўкі, бо, як паказвае практыка, актыўнаму прыцягненню беларускага бізнесу ў культуру яна не садзейнічае.

Перспектыву прадпрымальнікі бачаць. Праўда, у большасці пакуль укладваюць у нашу культуру замежныя бізнесмены. Напрыклад, актыўна супрацоўнічаюць з беларускім балетам тайландскія фірмы, выдзяляючы вялікія сродкі на рэкламу трупы ў Беларусі і за мяжой. Увогуле, прадпрымальнікі маюць выгаду, субсідуючы нашы творчыя калектывы. Не запалохалі нашы эканамічныя цяжкасці італьянскія фірмы, якія падпісалі пагадненне з Міністэрствам культуры і маюць намер стварыць цэнтр рамёстваў у Менску. Бо яны добра падлічылі, што садзейнічанне ў развіцці народнай творчасці (а гэта значыць выратаванне многіх відаў рамяства ад знікнення), вырабы якой карыстаюцца вялікім попытам і ў нас, і за мяжой, абернуцца немалым прыбыткам. Значныя сродкі атрымалі камерсанты краін СНД, уклаўшы грошы ў Міжнародны фестываль эстраднай песні «Славянскі базар», які адбыўся ў ліпені ў Віцебску.

**Наталля КІРПІЧЭНКАВА.**




# ТУСОЎКА ПАД ЗАЛАТЫМІ ЛІТАРАМІ

Кожны дзень па радыё і тэлебачанню толькі і чуеш: «мы ўступаем у рынак... уступаем у рынак!» І газеты пра тое ж. Я, далібог, не супраць рынку, аднак слова «ўступаем» выклікае ў мяне пэўную асацыяцыю, успамін, звязаны з далёкім дзяцінствам. Некалі мама, надзеўшы на мяне новенькія сандалі, казала: «Ты ж глядзі, дачушка, куды не ўступі!» Успамінаю і думаю: «Да рынку яшчэ ой як далёка, а вось уступіць можна на кожным кроку. Напрыклад, на вуліцы Алаізы Пашкевіч...» Дарэчы, так яе назваў нехта дужа «культурны», відаць, падумаўшы, што назваць яе вуліцай Цёткі — «груба» (што за цётка ў цэнтры сталіцы?), хоць стала вядомай паэтка менавіта як Цётка!

Вуліца гэтая, дакладней, маленечкая ўтульная вулачка, знаходзіцца непадалёк ад былой Базарнай плошчы, якую пазней назвалі Плошчай Парыжскай Камуны і на якой стаіць цяпер помнік Максіму Багдановічу, што, безумоўна, робіць «камуністычную» назву плошчы абсалютна недарэчнай. Чаму «Парыжскай Камуны», калі тут знаходзіцца нацыянальны оперны тэатр і ўзвышаецца помнік нацыянальнаму паэту? Але гэта так, між іншым, — я ж пра ўваход у рынак!..

На адным з дамоў на вуліцы Цёткі (буду ўсе ж так яе называць!) прымацавана мемарыяльная дошка з барэльефнай прыгожай выявай паэткі, якая хоць і сціпла, але красамоўна напамінае пра нашы культурныя здабыткі яшчэ ў «змрочныя часы» агульнага непісьменства — часы «Нашай Нівы», маладых Купалы і Коласа, іх таленавітай паплечніцы. А побач з гэтым домам — праз арку —яшчэ адзін дом, у якім у гады «застою» была спачатку антыкварная лаўка, а потым магазін «Кулінарыя». Вулачка тады не насіла знакамітага імя, але была добра вядома гаспадыням, бо ў «Кулінарыі» можна было без чаргі разжыцца ўсім, што цяпер завецца дэфіцытам. Трэба сказаць, што ні антыкварная лаўка, ні пазней «Кулінарыя» не псавалі выгляд вуліцы. Тут, пад старымі ліпамі, заўсёды было чыста, ціха і бязлюдна. Ды «рыначныя адносіны» і сюды прынеслі новыя фарбы, гукі і ... пахі. Замест магазіна тут цяпер «Бар». Хоць і не начны і, здаецца, безалкагольны, моладзь адразу яго ўпадабала — «тусуецца» тут з раніцы да вечара. Месцаў, праўда, малавата, усяго некалькі столікаў, аднак «тусоўкі» займаюць бар па чарзе, адны заходзяць, другія выходзяць, падпіраюць сцены, таўкуцца пад ліпамі, гутараць, кураць, пьюць з «гарла». Яно хай бы сабе і так, калі б не бруд раніцой, недапалкі, смецце і ... яшчэ тое-сёе, пра што ўслых не гавораць. Справа ў тым, што, адкрываючы бар, ніхто не падумаў пра такую «дробязь», як туалет, прасцей кажучы — прыбіральня, якую добры гаспадар звычайна будуе перш-наперш, раней, чым закладзе першы камень у падмурак хаты. Бар, дзе з раніцы да вечара п'юць, хай сабе толькі каву і «коку», ёсць, а прыбіральні няма. Вось моладзь і прыстасавала пад яе тую арку побач і той пад'езд, пры ўваходзе ў які на мармуровай пліце залатымі літарамі выбіта імя паэткі...

Бар, пра які ідзе гаворка, — прыватны. Жывая, так бы мовіць, адзнака рынку. І натуральна ўзнікае пытанне: няўжо рынак і культура, у дадзеным выпадку нават не ў глабальным сэнсе, а ў самым звычайным, побытавым рэчы несумяшчальныя? Няўжо той, хто плоціць, не толькі музыку заказвае, але і можа «хадзіць», дзе хоча? Можа, усё-ткі, не трэба гэтак уваходзіць у рынак, урывацца ў яго на злом галавы, можа, трэба пачынаць з гігіены — і сацыяльнай, і маральнай, і звычайнай — чалавечай? Бо народзіцца не рынак, а брудны кірмаш, дзе на кожным кроку можна ўступіць у тое, ад чаго засцерагала маленькую дзяўчынку маці. Рынак, не ачалавечаны культурай — «дзікі».

**Рэгіна БАКУНОВІЧ.**

# МІКАЛАЙ РАД

## НЕКАРАНАВАНЫ КАРОЛЬ

Выдатны палітычны, культурны і рэлігійны дзеяч, буйнейшы магнат Мікалай Радзівіл Чорны быў той магутнай постаццю Эпохі Рэнесанса, чыя дзейнасць выразна ўплывала на развіццё гістарычных падзей у Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы ў сярэдзіне XVI ст. Ён займаў найбольш значныя пасады ў дзяржаве: земскага маршалка, канцлера ВКЛ, віленскага ваяводы.

Радзівіл Чорны нарадзіўся 4 лютага 1515 г. у Нясвіжы. Яго бацька Ян Мікалай быў троцкім кашталянам, маці — Ганна з роду Кішак. Пасля смерці бацькі апекуном Мікалая, яго малодшага брата Яна і сясцёр Ганны і Соф'і стаў іх дзядзька, віленскі кашталян Юрый Радзівіл. Юнацтва сваё Мікалай правёў пры каралеўскім двары ў Кракаве, дзе адбылося яго сяброўскае збліжэнне з будучым каралём польскім і вялікім князем Літоўскім Жыгімонтам Аўгустам. Няма звестак, што Радзівіл Чорны вучыўся ва універсітэце. Больш верагодна, што ён атрымаў толькі хатнюю адукацыю, але рэнесансавая атмасфера каралеўскага двара адбілася на яговых густах і звычках. У сваіх публічных выступленнях, карэспандэнцыі Радзівіл карыстаўся польскай мовай, няблага ведаў старажытнабеларускую мову, якая ў той час выконвала функцыі асноўнай дзяржаўнай мовы, пасрэдна валодаў латынню.

Імклівае службовае ўзнясенне Радзівіла Чорнага пачалося пасля 1544 г., калі на берасцейскім вальным сейме быў прыняты акт, згодна якому Жыгімонт І Стары перадаваў поўную ўладу ў ВКЛ свайму сыну — Жыгімонту Аўгусту. Мяркуюць, што менавіта Радзівіл быў ініцыятарам гэтага праекта. На гэтым жа сейме ён атрымаў вельмі ўплывовую пасаду земскага маршалка, якая давала магчымасць часта бываць пры вялікакняскім двары. Земскі маршалак ажыццяўляў вышэйшую судовую ўладу ў дзяржаве, таксама займаўся пасольскімі справамі.

У пачатку 1546 г. Радзівіл удзельнічаў у пасольскай місіі да Жыгімонта І з мэтай урэгулявання межаў паміж Каронай і ВКЛ, зраўнавання літоўскай манеты з польскай, вызначэння памераў «падарункаў» татарам, каб не нападалі на памежныя землі.

Палітычны ўплыў Радзівіла Чорнага ўзмацніўся, калі яго стрыечная сястра Барбара Радзівіл, удава троцкага ваяводы Станіслава Гаштольда, стала жонкай Жыгімонта Аўгуста. Нягледзячы на асабістую ўзаемную непрыхільнасць між ім і Барбарай, Радзівіл быў патаемным арганізатарам гэтага шлюбу. Пасрэдніцтва Радзівіла ў жаніцьбе караля выклікала абурэнне не толькі ў Кароне, але і ў ВКЛ, дзе феадальная знаць апасалася павелічэння ўплыву роду Радзівілаў. Чорны прыклаў шмат намаганняў, каб, нягледзячы на процідзеянне каталіцкай духоўнай іерархіі, многіх сенатараў, шляхты, сенат прызнаў законнасць каралеўскага шлюбу і даў згоду на каранаванне Барбары. Гэтыя намаганні прынеслі яму буйныя фінансавыя страты і крыўдны пасквіль на яго адрас.

У 1547 г. Радзівіл удзельнічаў у пасольстве ў Аўстрыю па справах пасагу нябожчыцы — першай жонкі Жыгімонта Аўгуста Альжбеты з Габсбургаў. Сакратаром і саветнікам ён узяў з сабою вядомага польскага храніста Марціна Кромера. У час падарожжа, у Аўгсбургу, Радзівіл атрымаў ад імператара Карла V права на княскі тытул для сябе і асобных прадстаўнікоў свайго роду. Чорны і яго брат Ян сталі называцца князямі «на Олыцэ і Нясвіжы», іх стрыечны брат Мікалай Радзівіл Руды — князем «на Біржах і Дубінках». У 1549 г. Радзівіл атрымаў берасцейскае староства. У гэтым жа годзе ён удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць татар на Валыні. Пасля заканчэння ваеннай кампаніі кароль выдаў прывілей аб наданні яму гетманства, але Радзівіл, не маючы ахвоты да вайсковых спраў, адмовіўся ад гэтай пасады. Яго прываблівала палітычная дзейнасць, якая прыносіла яму поспех. У 1550 г. Радзівіл атрымаў пасаду канцлера ВКЛ і барысаўскае староства.

Сваяцтва з польскім каралём і вялікім князем Літоўскім толькі ўскосна паўплывала на бліскучую палітычную кар'еру Чорнага. Ужо пасля смерці Барбары ў 1551 годзе ён атрымаў прывілей на віленскае ваяводства, што ў велізарнай ступені ўзмацніла яго пазіцыі — ён стаў сапраўды «некаранаваным каралём Літвы». Пазней, у 1560г. Радзівіл змог дабіцца ад караля прывілея, па якім віленскі ваявода займаў у Радзе другое па важкасці месца пасля віленскага біскупа, першае сярод усіх свецкіхураднікаў. Уплыў Чорнага на палітыку вялікакняскага ўрада быў такім значным, што ў 1551г. радзівілаўскі архіў атрымаў права на захоўванне важнейшых дзяржаўных актаў. Як канцлер, Радзівіл асаблівую ўвагу надаваў дакументам, якія пацвярджалі ўсе даўнія прывілеі Вялікага княства Літоўскага.



У 1551г. ён атрымаў у вечнае валоданне Клецк і Давыд-Гарадок, а праз два гады — мястэчка Морды на Падляшшы.

У 1553г. Радзівіл выязджаў з дыпламатычнай місіяй да Габсбургаў, каб прадухіліць магчымы габсбургска-маскоўскі саюз, які мог ускладніць становішча на ўсходніх межах ВКЛ. Збіраўся таксама дамовіцца наконт чарговага шлюбу Жыгімонта Аўгуста з малодшай дачкой Фердынанда І Габсбурга Катарынай. Згода на шлюб была атрымана, і ў падзяку за пасрэдніцтва Чорны атрымаў ад Фердынанда тытул графа на Шыдлаўцы.

Галоўнай сферай дыпламатычнай дзейнасці Радзівіла ў 50-60-я гады былі адносіны з Інфлянтамі. Асноўнай яго мэтай зрабілася падпарадкаванне Інфлянтаў Вялікаму княству Літоўскаму — каб не дапусціць заняцця іх войскам Івана IV. Вынікам яговых намаганняў стала ў 1561г. інкарпарацыя Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім большай часткі Інфлянтаў і ліквідацыя там Ордэна мечаносцаў. Па прывілею караля Радзівіл ажыццяўляў адміністрацыйную ўладу над Інфлянцкім княствам. У 1562 г. у рыжскім замку Мікалай Чорны прыняў з рук былога магістра Ордэна мечаносцаў Готарда Кетлера сімвалы магістэрскай улады —залатыя крыж і пячаць. Яму былі перададзены таксама прывілеі і архіў Ордэна.

У 1555 — 1556гг. Радзівіл удзельнічаў у падрыхтоўцы і ажыццяўленні аграрнай ("валочнай") рэформы ў гаспадарскіх уладаннях у княстве. За паспяховае правядзенне валочнай памеры ў берасцейскім старостве кароль аддаў яму гэтае староства ў пажыццёвае валоданне.

Радзівіл Чорны быў прыхільнікам незалежнасці ВКЛ ад Польшчы. На сеймах, якія абмяркоўвалі праекты уніі дзвюх дзяржаў, ён выступаў за суверэннасць Вялікага княства ў складзе Рэчы Паспалітай. Сепаратызм Чорнага выклікаў каралеўскую няміласць, якую, дарэчы, Радзівіл цяжка перажываў. Пазіцыя Чорнага, а яе падтрымлівалі многія беларуска-літоўскія магнаты, бралася пад увагу пры заключэнні (ужо пасля смерці Радзівіла) Люблінскай уніі 1569г., што аказала ўплыў на пазнейшыя палітычныя ўзаемаадносіны з Каронай.



# ЗІВІЛ ЧОРНЫ

* * *

З імем Радзівіла Чорнага звязана распаўсюджанне і прапаганда рэфармацыйных ідэй, арганізацыя рэфармацыйнай царквы на нашых землях. Галоўныя прычыны, якія парадзілі рэфармацыйны рух у ВКЛ, былі тыя ж, што і ў краінах Заходняй Еўропы. Але яго своеасаблівасць заключаецца ў тым, што асноўнай сацыяльнай апорай Рэфармацыі ў княстве была феадальная знаць і частка залежнай ад яе шляхты. На тое меліся свае палітычныя прычыны. К сярэдзіне XVIст. узмацняецца тэндэнцыя да дзяржаўна-палітычнага збліжэння ВКЛ з Польшчай. Большасць буйных феадалаў процідзейнічала працэсам палітычнай цэнтралізацыі, планам дзяржаўнай уніі з Польшчай. Рэфармацыя для магнатэрыі была важным сродкам аслаблення каталіцкай царквы (з яе цэнтралізаванай структурай і сувяззю з вярхоўнай уладай), якая падтрымлівала ідэю унітарнай Рэчы Паспалітай. Палітычны ўплыў і аўтарытэт Чорнага, які першым з магнатаў ВКЛ прыняў Рэфармацыю, у значнай ступені забяспечылі масавы пераход шляхты ў пратэстантызм у 50-60-я гады XVIст.

Спачатку Радзівіл схіляўся да лютэранства, але ў сярэдзіне 50-х гадоў прыняў кальвінізм, які набыў найбольшае пашырэнне ў ВКЛ, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі. Чорны, які падтрымліваў сувязі з прадстаўнікамі асноўных пратэстанцкіх плыняў ў ВКЛ — лютэранамі, кальвіністамі і антытрынітарыямі, —стаў галоўным пратэктарам Рэфармацыі. Валодаючы вялізнымі маёнткамі на Беларусі, у Літве, Польшчы, ён засноўваў у іх пратэстанцкія цэрквы (зборы). Пры буйных зборах ствараліся друкарні, школы, «шпіталі» (дамы прытулку). Першы на Беларусі рэфармацыйны збор Радзівіл заклаў у 1553 годзе ў Берасці. Ёсць звесткі, што там знаходзіўся габелен з выявай Марціна Лютэра (копія з арыгінала Лукаса Кранаха). Прыкладна ў той жа час пры ўдзеле Радзівіла была арганізавана галоўная рэфармацыйная абшчына — у Вільні. Першы віленскі збор размяшчаўся ў радзівілаўскім палацы на Лукішках.




Некаторы час Радзівіл падтрымліваў ідэю стварэння Народнага сабора, свайго роду дзяржаўнай царквы, якая б аб'ядноўвала усіх хрысціян ВКЛ і Польшчы і была б больш незалежнаю ад рымскай курыі. Па некаторых звестках, у апошнія гады свайго жыцця Радзівіл стаў прыхільнікам антытрынітарыяў, якія ў рэлігійных пытаннях займалі найбольш радыкальныя пазіцыі (прыкладам, адмаўлялі дагмат Тройцы). Але ён не падзяляў іх сацыяльных поглядаў. Ад «згубнага» ўплыву антытрынітарскіх ерасей італьянца Г.Бляндраты, гасцінна сустрэтага Радзівілам, засцерагае ў сваім лісце ад 9 кастрычніка 1561г. віленскаму збору Жан Кальвін. У 1563г. у падляшскім мястэчку Мордны, якое належала Чорнаму, адбыўся сінод, дзе большасць прысутных ухваліла ідэі антытрынітарызму. Радзівіл выношваў планы спалучэння кальвіністкай і антытрынітарысцкай плыняў. Шчадротамі радзівілаўскага двара карысталіся многія знакамітыя тэолагі, царкоўныя дзеячы, пісьменнікі, сярод іх Сымон Будны, Марцін Чаховіц, Томаш Фальконіуш-Сакалоўскі, Андрэй Тшэцескі, Кіпрыян Базылік і іншыя. Свае творы яму прысвячаў нават Ж.Кальвін.




* * *

Дзейнасць Мікалая Радзівіла адыграла вялікую ролю ў развіцці мецэнацтва ў розных сферах культуры Беларусі і Літвы. Літаратурнае мецэнацтва Чорнага было цесна звязана з арганізацыяй кнігадрукавання на Беларусі. Працяглае знаходжанне за мяжою, знаёмства з мясцовай і еўрапейскай культурай дапамаглі яму зразумець, што ў кнігах вялікая моц і сіла.

Для прапаганды рэфармацыйных ідэй у 1553г. пры берасцейскім зборы Радзівіл заснаваў першую на тэрыторыі Беларусі друкарню, якая дзейнічала да 1570г. У Берасці працавалі запрошаныя з Польшчы друкары Б.Ваявудка, С.Мурмеліус, таленавіты паэт, перакладчык і кампазітар Кіпрыян Базылік. Тут друкавалася не толькі рэлігійная (псальмы, катэхізіс, рэлігійная палеміка), але і свецкая літаратура. З берасцейскай друкарні выйшлі першыя на Беларусі юрыдычныя творы ("Артыкулы магдэбургскага права" Б.Гроіцкага), гістарычныя і медыцынскія кнігі, першы друкаваны нотны зборнік — «Брэсцкі канцыянал» Яна Зарэмбы. У Канцыянал увайшло каля 100 песень, аўтарамі якіх былі А.Тшэцескі і С.Зацыус (апошні ўзначальваў кальвіністкую царкву ва ўсім ВКЛ). Музыку напісалі кампазітары Вацлаў з Шамотул і Кіпрыян Базылік, якія служылі ў прыдворнай капэле Радзівіла. У Берасці быў апублікаваны сатырычны антыкаталіцкі твор «Пратэй». Амаль усе выданні берасцейскай друкарні выходзілі з прысвячэннямі знатнаму патрону.

З імем Радзівіла звязана таксама выданне арыгінальнага публіцыстычнага твора — паслання папскаму нунцыю ў Польшчы Алаізію Ліпамана. Нунцый звярнуўся з лістом да Радзівіла, у якім заклікаў яго вярнуцца ў лона каталіцкай царквы. Радзівіл не звярнуў бы ўвагі на гэтае пасланне, калі б яму не стала вядома, што Ліпамана раіў Жыгімонту Аўгусту дзеля выкаранення рэфармацыйнай ерасі «зняць некалькі знатных галоў». Ад імя Радзівіла нунцыю быў накіраваны адказ, напісаны, як мяркуюць, асабістым сакратаром князя, вядомым польскім лінгвістам Янам Манчыньскім, у якім быў рэзкія антыкаталіцкія і антыпапскія выпады. Выданне атрымала вялікі грамадскі рэзананс, нунцый быў вымушаны пакінуць гэтае, па яго словах, «пекла».

Асобнае месца ў гісторыі Рэфармацыі і кнігадрукавання на Беларусі займае польскі пераклад поўнага зводу Біблії — кальвіністкай Брэсцкай (ці Радзівілаўскай) біблії 1563г. Гэта найбуйнейшае па аб'ёму і адно з лепшых па сваіх мастацкіх і паліграфічных якасцях рэнесансавае выданне выйшла ў асноўным за кошт Радзівіла Чорнага. Над рэдакцыяй і перакладам працавалі запрошаныя ім тэолагі і літаратары Ян Ласкі, Сымон Зацыус, А.Тшэцескі, Ф.Станкар і іншыя. Як амаль усе выданні Берасцейскага друкарскага двара, Брэцкая біблія была ўключана ў спіс забароненых рымскай курыяй кніг.

Пад апекай Радзівіла дзейнічала таксама пратэстанцкая друкарня ў Нясвіжы, у яе арганізацыі бралі ўдзел вядомыя дзеячы Рэфармацыі С.Будны, М.Кавячынскі, Л.Крышкоўскі. Яны выдалі некалькі кніг кірыліцай для распаўсюджвання рэфармацыйных ідэй сярод мясцовага насельніцтва. Збярогся толькі Катэхезіс 1562г. з прысвячэннем Радзівілу Чорнаму і яго сыну Мікалаю Крыстофу, званаму Сіроткай. У сярэдзіне XVIст. Радзівіл заснаваў у Нясвіжы адну з буйнейшых на Беларусі бібліятэк, якая налічвала некалькі тысяч тамоў.




Цікавасць да мастацтва засталася ў Радзівіла з юнацкіх гадоў. Да таго ж яго жонка Альжбета была дачкою аднаго з буйнейшых польскіх мецэнатаў — кракаўскага кашталяна, каронната гетмана Крыстофа Шыдлавецкага. Ёй прысвяціў сваю паэму «Сусана» выдатны польскі паэт Ян Каханоўскі.

Радзівіл прыклаў усё старанне, каб даць сваім дзецям еўрапейскую адукацыю. Пасля смерці бацькі пад уплывам палітычных абставін усе яны перайшлі ў каталіцкую веру.

Мікалай Радзівіл Чорны памёр 29 мая 1565г. у сваім палацы на Лукішках, тагачасным прадмесці Вільні. Быў пахаваны разам з жонкаю пры віленскім зборы. У 1647г. труны з астанкамі Радзівіла і яго жонкі ўрачыста перанесены з Вільні ў Дубінкі (Літва). Пасля смерці Чорнага папскі нунцый Камедоні пісаў: «Памёр чалавек, наймагутнейшы не толькі ў Літве, але ва ўсіх краях гэтай дзяржавы» (Рэчы Паспалітай).

У свядомасці нашчадкаў Радзівіл Чорны застаўся вялікім рэфарматарам, уплывовым палітычным дзеячам, які кардынальна змяніў царкоўна-рэлігійнае, а часткова — і культурнае жыццё ў Вялікім княстве Літоўскім.

**Людміла ІВАНОВА.**

*На здымках:*

1. Мікалай Радзівіл Чорны.
2. Нясвіж XIX ст. Гравюра Напалеона Орды. У XVIст. горад быў уласнасцю Мікалая Радзівіла Чорнага.
3. Друкарскі знак (сігнэт) Кіпрыяна Базыліка. Берасце, 1569г.
4. Тытульны ліст Катэхізіса Сымона Буднага. Нясвіж, 1562г.
5. Тытульны ліст Брэсцкай Біблії, 1563г.

# Запіта, дзеванька, запіта, Шоўкамі хустанька нашыта...

Калі ў час сватання бацькі дзяўчыны згаджаліся на шлюб, пачыналіся запоіны, на якіх і замацоўвалася гэта згода. Запоіны, або «запіўкі», «малая гарэлка», «малыя заручыны», «першая гарэлка», «барашы» адбываліся ў дзень сватання і з'яўляліся як бы яго працягам, або ў іншы, прызначанны для сватання дзень. Ехалі на запоіны бацька маладога (сам малады мог і не прысутнічаць), хросны бацька, дзядзька або цётка жаніха. З боку маладой запрашаліся самыя блізкія сваякі і сяброўкі. Сваты прывозілі хлеб і гарэлку, закуску падавалі бацькі маладой. Абавязковай стравай на запоінах была яечня і сыр, таму часта гаварылі пра нарачоную:"запілі" дзяўчыну ці «заелі» яечняй (або сырам). Першую чарку піў сват, затым перадаваў яе маладой, паклаўшы на дно манету. Дзяўчына выпівала гарэлку, а грошы забірала. Калі чарка даходзіла да бацькі маладой, яны са сватам пацiскалі адзін аднаму рукі. Сам звычай запіваць, піць «бараш», біць па руках вельмі нагадвае нейкае гандлёвае пагадненне.

Калі гарэлка была выпіта, маці дзяўчыны забірала прывезены сватамі хлеб, а ім аддавала свой, у бутэльку ж, што была з гарэлкай, насыпала жыта і абвязвала яе ручніком, пацвярджаючы такім чынам згоду на шлюб. Перш чым ад'язджаць, сваты дамаўляліся, на які дзень прызначыць заручыны.

Заручыны таксама мелі шмат лакальных назваў: «змовіны», «вялікія запоіны», «вялікая гарэлка», «рукабіцце», «лад». На заручыны запрашалася больш шырокае кола сваякоў з абодвух бакоў. Асноўная мэта заручын — канчаткова замацаваць згоду на шлюб і прызначыць дзень вяселля.

Перад пачастункам сват або бацькі нарачоных «жанілі» гарэлку — злівалі з дзвюх бутэлек (ад маладога і ад маладой) у адну міску. Пасля пілі гэтую гарэлку ўсе па чарзе. Моладзь танцавала, старэйшыя дамаўляліся пра дэталі вяселля. Вельмі падрабязна абгаворваліся пасаг і падарункі, час і парадак вяселля, вызначалася колькасць гасцей і сватоў, а таксама колькасць гарэлкі. Пасля таго, як усе неабходныя пытанні былі вырашаны, бацька маладой і бацька маладога білі адзін аднаго па руках і цалаваліся. Маладая ў знак згоды падае руку спачатку жаніху, затым свату і таксама цалуецца з імі. У Лепельскім павеце замацаванне дамоўленасці праходзіла інакш: бацькі падавалі адзін другому рукі, жаніх і нявеста клалі свае рукі крыж-накрыж зверху, а маці нявесты абхоплівала сваёй рукой іхнія рукі. Маладыя пасля гэтага абменьваліся пярсцёнкамі, затым усе маліліся.

У канцы абраду заручын маладая (або яе маці) абдорвала маладога і сватоў. У якасці дароў выкарыстоўваліся рэчы, зробленыя маладой спецыяльна для гэтай мэты: ручнікі, хусткі, кавалкі даматканага палатна. Гэты звычай называўся «абкрываць сватоў штанамі» і з'яўляўся выразным знакам згоды на шлюб. Дары вешалі на шыю спачатку бацьку жаніха, потым маці, жаніху, пасля — астатнім. Бацька жаніха ў гэты час даставаў з-за пазухі салодкую гарэлку (падфарбаваную сушанымі ягадамі) і частаваў усіх па парадку — «дары бяліў». Кожны, хто атрымаў падарунак, клаў на талерку грошы. У некаторых мясцовасцях жаніх ехаў на заручыны з дарамі для нявесты, прывозіў ёй панчохі, боты або чаравікі ці нешта з адзення. На заручынах вяселле абвяшчалася афіцыйна, хлопца і дзяўчыну называлі малады і маладая, жаніх і нявеста або князь і княгіня. Пасля заручын адмаўленне ад шлюбу — ці з боку жаніха, ці з боку нявесты —было



амаль немагчыма. І не толькі таму, што гэта было ганьбай для хлопца ці дзяўчыны, але і таму, што адмоўнікам трэба было заплаціць выдаткі намнога большыя, чым на запоінах, і ўжо адно гэта стрымлівала бацькоў адмаўляцца ад шлюбу.

На заручынах пачыналі гучаць першыя вясельныя песні. Гэта ў асноўным элегічныя песні, напоўненыя смуткам маладой, якой нялёгка яшчэ было ўсвядоміць хуткае расстанне з бацькамі, сяброўкамі, вольным дзявочым «пагулянейкам».

Спазнаць вутачку
па палётачку,
Што яна падстралёна:
Нізенька ляціць, не далятаець,
Нам крылейкам не махаець.
Спазнаць Танечку
па паходачцы,
Што яна заручона:
Смутненька ходзіць,
Цяжанька ўздыхаець.
А дзе станець, прыхінецца,
Слязьмі абаль'ецца.

Песні асвятляюць асноўныя абрадавыя моманты, рэгламентуюць, што і калі рабіць ці гаварыць маладому або маладой. Так, у заручыннай песні «Не забывайся, жанішка» маладому даецца парада не піць першую чарку, а выліць яе на грыву каню, «каб была грывачка кудрава, каб была дзевачка слухмяна».

Наступная песня раіць маладому ўважліва аднесціся да падбору дружыны:

Бяры дружыну вяліку,
Паедзем мы ў чужу старану,
Каб нам не было сараму.
Ні за таго музыку-разаку,
Ні за тую сваціньку-пявунню,
Ні за тых маршалак вымоўных.

Шмат розных песень гучала на заручынах, музыка, танцы, спевы цягнуліся за поўнач. Разыходзячыся, дзяўчаты — сяброўкі маладой — дамаўляліся праз тыдзень-другі сабрацца на дзявочы вечар — самы прыгожы і паэтычны і самы сумны для маладой перадвясельны абрад.

Таццяна ЦЯПКОВА,
фальклярыст.

---

Вёска Лаўрышава, згодна з БелСЭ, знаходзіцца непадалёк ад Навагрудка і мае больш за сто дваццаць двароў, Дом культуры, сярэднюю школу, таксама помнік 174 савецкім воінам і партызанам, якія загінулі ў Айчынную вайну.

Для тых жа, хто любіць беларускую гісторыю, Лаўрышава адразу нагадвае падзеі сярэдзіны XIII стагоддзя, калі сын Міндоўга — першага вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Войшалк заснаваў тут манастыр «на реце на Немне, межи Литвою и Новымгородком». Захавалася Лаўрышаўскае Евангелле, дзе, як лічаць, знаходзіцца выява самога Войшалка — вялікага князя, ваяра, кніжніка.

Мабыць, удзельнікі ансамбля народных інструментаў з Лаўрышаўскага РДК — ні дырэктар Аляксандр Казец, ні рабочы-пенсіянер Хведар Жарко /у цэнтры/ — не думаюць пра сівую даўніну, калі граюць і спяваюць народныя песні, пад якія так хочацца людзям сёння атрымаць хаця б драбінку радасці — самім патанчыць, падцягнуць песню, якая хораша гучыць і на плошчы Навагрудка, пад самымі вокнамі ДАІ... Але песні, як і Слова, захоўваюць далёкую, глыбінную памяць. І, магчыма, іх жа спявалі і нашы продкі ў часы Міндоўга і Войшалка...

Фота Жанны МАЁРАВАЙ.




Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

*Заснавальнік* — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА
Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ



Адказны сакратар — Уладзімір КЛІМОВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА 25, кв. 12. Тэлефон: 27-83-18



Фармат А3, Індэкс 63875
Агульны наклад 7282 Замова 1791
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку".
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.